ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Помогите приватизировать квартиру...

Пишу я Вам это письмо с большой надеждой, что Вы мне поможете.

Проживаю я в г.п.Лиозно Витебской области. Мой муж умер в 2009 году. Он стоял на очереди в райисполкоме с 1978 года. А работали мы на овощесушильном заводе. Жили в общежитии. Площадь комнаты составляла 15 квадратных метров. У нас было двое разнополых детей – сын 1978 года рождения и дочь на три года младше.

Куда мы только не обращались с просьбой улучшить наши жилищные условия – все наши письма переадресовывались местным властям, а они отделывались отписками.

И вот только когда дети уже выросли, а муж стал очень сильно болеть, наконец-то предоставили двухкомнатную квартиру. Но я не знала, что она окажется так называемой социальной. А это не сулило ничего хорошего.

В 2009 году после смерти мужа меня начали шантажировать, как будто я ему была не жена, а сожительница. С 2009 года мне продлили договор на три года. После этого я опять обратилась в райисполком. Мне продлили право проживания в квартире уже до сентября 2019 года.

В 2011 году у меня произошло большое горе – убили мою дочь. У нее остались две дочери – 2005 и 2007 года рождения. Я стала их опекуном. Ходила в райисполком, чтобы их прописали ко мне, но чиновники сказали, что закон не позволяет это сделать: мол, у них есть дом, хотя они в том доме не жили. Они жили со мной с малых лет.

Я тогда сказала: поставьте их на очередь. В ответ услышала: не положено. Вот и получается, что круглые сироты остаются без защиты.

Прошу Вас, уважаемая редакция, помогите мне: пусть власти разрешат приватизировать квартиру, в которую когда-то заселили нас как в служебную. Дом был построен около 40 лет назад. Мой муж был инвалидом второй группы.

**В.И.ИВАНОВА, проживающая в г.п.Лиозно Витебской области.**

*ОТ РЕДАКЦИИ*

Уважаемая наша читательница!

Мы готовы Вам помочь, но решение-то принимает не редакция, а местная власть. Опубликованное письмо направим руководству райисполкома. Надеемся, оно будет рассмотрено по существу, и если законодательство позволяет пойти Вам навстречу и такая возможность есть, то будем рады, если Ваша просьба будет исполнена.

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




## В Минске женщина сдала квартиру, а потом в компании со своим сожителем ограбила квартирантов

Предприимчивые владельцы недвижимости вынесли бытовую и цифровую технику, почти 4 тысячи долларов, 1200 российских рублей и 100 белорусских, а также одежду и обувь. На этом влюбленная парочка не остановилась – они съели плавленый сыр, принадлежащий квартирантам, сообщает onliner.by.

ДЫСКУСІЯ

# Пераарыентацыя эканомікі – патрабаванне дня!

З вялікай цікавасцю азнаёміўся з разважаннямі сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Пятра Мігурскага накont таго, як вывесці Беларусь на новы ўзровень эканамічнага развіцця. Згодны з яго сцвярджэннямі, што ў краіне адсутнічае рынкавая сістэма, высокі ўзровень карупцыі, відавочна тэрытарыяльная дыспрапорцыя… Але, я лічу, патрабуецца больш глыбокі аналіз працэсаў, якія адбываюцца ў дзяржаве. На ўзбраенне трэба ўзяць вопыт развітых замежных краін. Сапраўды, многія з іх, як і Беларусь, не маюць прыродных багаццяў, урадлівых зямель, а жывуць нашмат лепш за нас. Хоць, заўважу, нас Бог не абдзяліў. Мы маем такія велізарныя рэсурсы, як калійная соль, вада, драўніна… Але шкада, што наша эканоміка больш завязана на нафту, газ, метал. Вось чаму неабходна пераарыентацыя галін народнай гаспадаркі з улікам уласных прыродных рэсурсаў.

Што тычыцца адсутнасці выхаду да мора, то з гэтай нагоды мы маем вялікі мінус. Амаль 70 працэнтаў сусветнага ВУП ствараецца на адлегласці не больш за 100 міляў ад мора. І тут даўно трэба ўзгадаць тыя прапановы, якія гучалі яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя па стварэнні Балтыйска-Чарнаморскага калектара.

Наўрад ці Беларусь здолее ажыццявіць прарыў у высокатэхналагічных відах дзейнасці пры сучасным фінансаванні навукі (менш за 1 працэнт ВУП) і адукацыі (каля 7 працэнтаў).

Нельга забывацца і пра знешнюю запазычанасць, якая перавысіла ў сукупнасці ўжо 45 мільярдаў долараў. І далей будзем хадзіць па свеце з працягнутай рукой, калі не вызначымся з прыярытэтнымі накірункамі эканомікі. Учора кіраўніцтва краіны казала пра развіццё льнаводства і вытворчасць мармуровага мяса, сёння – пра лічбавую эканоміку і крыптавалюту, а заўтра пра што? На маю думку, трэндам нашага развіцця на бліжэйшыя дзесяцігоддзі павінна стаць прамысловасць (працаёмістыя і энергаёмістыя яе віды), аграрны сектар (найперш развіццё жывёлагадоўлі), знешні гандаль (тавараў і паслуг).

Выклікае здзіўленне і абурэнне тое, што блізіцца завяршэнне будаўніцтва першага энергаблока Беларускай АЭС, а да сённяшняга дня не зразумела, як будзе выкарыстоўвацца электраэнергія. На мой погляд, трэба тэрмінова брацца за стварэнне энергаёмістага кластэра паблізу АЭС.

Пры катастрафічным змяншэнні колькасці жыхароў Беларусі (на 15 і больш тысяч чалавек штогод) вострa стаіць пытанне аб ратаванні нацыі, і не толькі ў фізічным плане, але і ў духоўным. На тое, што ўжо сёння «паўсюдна адзначаюцца вёскі, дзе зусім няма дзяцей», звяртае ўвагу і спадар Мігурскі. Аднак нельга пагадзіцца з тым, што гэта «вынік рэфармаванння аграрнага сектара эканомікі». Перакананы, што прычыны гэтай складанай з'явы больш глыбокія, яны маюць эканамічны, сацыяльны, экалагічны і палітычны характар. Пры такіх тэмпах скарачэння насельніцтва, асабліва сельскага, неабходна тэрмінова прымаць меры па выпраўленні сітуацыі (стымуляваць нараджальнасць і ствараць належныя ўмовы жыцця), думаць аб тым, хто заўтра будзе забяспечваць харчовую бяспеку краіны. Баюся, што ў бліжэйшай перспектыве Беларусь можа стаць імпарцёрам і прадуктаў харчавання з Кітая.

У эканамічным развіцці важную ролю адыгрывае ўласнасць. Праўда, сцвярджаць, што «прэваліраванне дзяржаўнай маёмасці ў эканоміцы Беларусі – вось што з'яўляецца галоўнай прычынай самай высокай інфляцыі на прасторах СНД», я не стаў бы. Па-першае, у агульнай вартасці асноўных сродкаў па стане на 2018 год на дзяржаўныя прыпадала 45 працэнтаў, на прыватныя – 50, на замежныя – 5 працэнтаў. Сярод усяго працаздольнага насельніцтва таксама асноўная частка была занята ў прыватным сектары (56 працэнтаў). І большая частка інвестыцый у асноўны капітал належала прыватнаму сектару (52 працэнты). Па-другое, галоўная прычына абясцэньвання грошай (інфляцыі) – празмерны выпуск у абарачэнне грашовай масы, якая не падмацавана рэальнай прапановай платных тавараў і паслуг. Безумоўна, пэўная сувязь паміж гэтымі з'явамі існуе, але не прамая, а ўскосная. Найперш вялікая доля стратных дзяржаўных прадпрыемстваў і падтрымка іх урадам адымае істотныя грашовыя сродкі, якія маглі быць з карысцю накіраваны на іншыя справы. У выніку атрымліваецца сітуацыя з валізкай без ручкі: і несці складана, і кінуць шкада.

Не зусім карэктна, на маю думку, аўтарам артыкула ставіцца пытанне аб прыватызацыі чыгункі, метро, радовішчаў карысных выкапняў, энергасістэмы. Лічу, што гэта заўчасна і пачынаць трэба з зямлі, пакуль яшчэ ёсць жадаючыя на ёй працаваць. Будзе гаспадар на зямлі – з'явіцца жаданне пашыраць поле прыватнай уласнасці і ў іншых сферах дзейнасці.

Не падмацаванымі фактамі выглядае сцвярджэнне пра «сталы рост паказчыкаў як па вытворчасці, так і па прыбытках, колькасці работнікаў і іх заробках» рэзідэнтаў свабодных эканамічных зон (СЭЗ), дзе дамінуе прыватны капітал. На самай справе некалькі гадоў таму пахвалiцца гэтымі высокімі паказчыкамі не магла практычна ніводная СЭЗ. Ды і ў 2018 годзе сітуацыя была далёкая ад аптымістычнай, напрыклад, у СЭЗ «Гомель». Таму ўпэўнена казаць, што прыватная ўласнасць – гэта заўсёды эканамічны поспех, не даводзіцца. Не патрабуюць доказу факты банкрутства шматлікіх прыватных прадпрыемстваў і арганізацый нават у развітых краінах свету. Ну а тое, што Кітай з яўным дамінаваннем дзяржаўнай уласнасці «закідаў» сваімі таварамі рынак Беларусі і рынкі тых самых развітых краін, павінна разглядацца ўвогуле як аксіёма.

Поўнасцю падзяляю меркаванне спадара Мігурскага адносна змен у сістэме матывацыі працы. Вядома, што найлепшы матыватар – матэрыяльная зацікаўленасць. Іншымі словамі кажучы – грошы. Дзе іх можна ўзяць? Там, дзе яны круцяцца. Калі ўжо гаворана аб марнатраўстве ў сістэме ідэалагічнага выхавання, правядзенні розных парадаў і ўрачыстасцяў, набыцці замежных спартсменаў і трэнераў! А няроднае існаванне беларускага чынавенства ў якія сумы выліваецца? І галоўнае – дзе вынік? Эканоміка ў крызісе (сярэднегадавы рост ВУП у два разы ніжэйшы за сярэдні ў свеце), высокіх спартыўных дасягненняў не бачна. Хіба толькі ідэолагі ў чарговы раз забяспечваць элегантную перамогу прэзідэнта. Дык ад такіх «перамог» становіцца чамусьці зусім не весела, і ўсё большая частка насельніцтва губляе надзею на лепшую будучыню. Глыбока перакананы ў тым, што не хлуслівай аптымізацыяй трэба займацца, а кардынальна (прыкладна ў два разы) скарацiць дзяржаўны апарат. Мяне ахапіў жах, калі нядаўна даведаўся, што ў адной толькі структуры па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва райвыканкама працуе больш за 10 чалавек.

Вось толькі некаторыя з маіх разважанняў пра далейшае развіццё краіны. Спадзяюся, чытачы «Народнай Волі» працягнуць размову.

**Вячаслаў САСНОЎСКІ, жыхар г.п. Смілавічы, кандыдат навук, дацэнт.**

РУБАМ!

## Трэба выкараняць прычыны, якія спрыяюць росквіту карупцыі

Літаральна за некалькі дзён злавілі з доказамі злачынства двух генеральных дырэктараў вядомых прадпрыемстваў. За хабар у буйных памерах. Бачыце, бяруць ужо не сотню-другую долараў, а дзясяткі тысяч.

Штосьці страшнае творыцца ў краіне! Б'ем па хвастах, нагнятаем псіхоз у грамадстве, а трэба выкараняць прычыны, якія спрыяюць росквіту карупцыі. Інакш палова насельніцтва будзе сядзець у турмах. А хто будзе працаваць?

**Галіна ПУЧКОВА.**

*Гомель.*

ГЛАС НАРОДА

## Пусть при такой температуре в комнатах они сами поживут…

Вопрос, который мы хотим поднять, неоднократно освещался в «Народной Воле» – это работа жилищно-коммунального хозяйства. Мы несколько раз обращались в домоуправление по поводу того, что в наших квартирах холодно. Самое смешное, что работники домоуправления приходят измерять температуру, когда на улице светит солнышко. И даже тогда в самых теплых комнатах температура бывает 17–18 градусов. Нам говорят: это нормально. Но если это нормально, то пусть при такой температуре в комнатах живут те, кто так считает и говорит. Мы платим за отопление и хотим жить в нормальных человеческих условиях. Мы это заслужили, честно работая всю жизнь.

Интересная деталь: даже в нашем доме температура разная в квартирах. В центре дома некоторые из них обогреваются нормально, а вот в тех, которые с краю, тепла недостаточно. Неужели нельзя что-то сделать? И когда кто-то говорит, что у него температура в комнатах 22–24 градуса, нам очень обидно, что у нас далеко не так, что мы мерзнем.

Прошлой зимой мы ходили на прием к начальнику ЖКХ «Комплекс» Александру Яковлевичу Чемоданову, который нас выслушал и пообещал, что летом во время ремонта в наших 15-этажках в подвалах будет установлен тепловой узел и мы сами будем регулировать температуру в квартирах. Мы очень надеялись и ждали этого, но ничего не дождались, воз и ныне там. Идет третий месяц зимы, а у нас ничего не изменилось, батареи греют слабо.

Хотелось бы поднять и вопрос о капитальном ремонте нашего дома, который делали летом к юбилею города. Внешний вид дома изменился, а внутри – ничего. Лестница, которая не ремонтировалась ни единого раза с 1984 года (тогда мы заселились в этот дом), до сих пор не отремонтирована, не говоря уже о самом подъезде. Мы же, заметим, ежемесячно платим за капитальный ремонт. Так неужели с 1984 года не заслужили, чтобы отремонтировали нам лестницу на запасной выход?

Поменяли двери на балкон, с которого выход на запасную лестницу, а дырки вокруг каркаса до сих пор не заделаны, хотя комиссия уже подписала документы о капитальном ремонте дома.

Мы хотим жить в нормальных человеческих условиях, так как своевременно оплачиваем коммунальные услуги. Надеемся, что чиновники нас наконец-то услышат.

**Жители дома №43 по улице Ленина в г.Солигорске: Андроновы (кв.8), М.М.Чечко (кв.7), Н.С.Болотько (кв.27), Л.К.Лукашевич (кв.29), А.Ф.Матиевич (кв.66), Фролова (кв.67), всего 17 подписей.**

# Тэзісы правільныя, а што далей?

Калі я чытаў артыкул Пятра Мігурскага «Як вывесці Беларусь на новы эканамічны ўзровень», то звярнуў увагу на такую выснову: «Сучасная Беларусі патрэбна своеасаблівая спіраль карысці для грамадства: дэмакратызацыя – прыватная маёмасць – замежныя інвестыцыі – вынік». Абсалютна правільныя тэзісы. Але як дасягнуць гэтай самай дэмакратызацыі, якую аўтар справядліва размясціў на пачатку спіралі?

Партыя вызначыла аж 35 сацыяльных праблем, якія неадкладна павінны вырашаць уладамі. А я магу налічыць 35 прычын, з-за якіх змена ўлады ў сённяшняй Беларусі немагчыма. Аднак я не буду стамляць чытача іх пералікам, тым больш што кожны, каму гэта цікава, асноўныя з іх ведае.

Многія з сённяшніх рэшткаў апазіцыі мне здаюцца наіўнымі рамантыкамі. Такім жа наіўным быў некалі і Зянон Пазьняк, які на сустрэчы з выбаршчыкамі ездзіў на трамваі і гаварыў народу тое, што думаў. А яго канкурэнт насіўся па рэгіёнах на хутkix іншамарках і гаварыў тое, што хацеў пачуць народ.

Папулізм быў, ёсць і будзе асноўнай зброяй у барацьбе за ўладу як на Усходзе, так і на Захадзе. Менталітэт народа, які вызначаецца каэфіцыентам прыліпання локшыны да вушэй электарату, можа змяніцца не раней як праз тысячу гадоў разам са зменай генетычнага кода.

Паглядзіце на ўкраінскіх прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пазалочаны ўнітаз (не ведаю, ці замянілі яго пасля Януковіча). Амаль усе яны абяцаюць спыніць вайну на ўсходзе краіны, хоць добра разумеюць, што гэта залежыць толькі ад таго, хто спачывае пад зоркай не Віфліемскай, а крамлёўскай.

А ў нашай хаце ўсё ціха, спакойна, стабільна, і толькі ў запечку трошкі чуецца драпанне прусакоў, але дастаткова гаспадару адзін раз чмыхнуць туды інсектыцыдам – і ўсё сціхне.

Не паспеў адправіць у рэдакцыю пісьмо, як у «Народнай Волі» з'явілася новая публікацыя, на гэты раз старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Ігара Барысава «Партыям – зялёны свет». І зноў усё правільна, і зноў няма аб чым спрачацца. «Палітычныя змены ў першую чаргу павінны адбывацца праз прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі», – піша аўтар. Але ж хто будзе секчы сук, на якім сядзіць? Каб прыняць новую рэдакцыю Канстытуцыі, трэба, каб у Нацыянальным сходзе было больш за палову апазіцыйных дэпутатаў. А як яны могуць туды трапіць пры сённяшняй уладзе?

Што і казаць, няпростыя праблемы стаяць перад беларускай нацыяй. Але дзе тыя сілы, якія здольны іх вырашыць?

**В.А.ЛІСТАПАД, былы настаўнік, ударнік XII пяцігодкі.**

*в.Лучнікі Слуцкага раёна.*

ПРАПАНОВА

## Вярніце рэлігійную адукацыю!

Бальшавіцкая ўлада пазбавіла дзяцей магчымасці атрымліваць у школах рэлігійную адукацыю. Мала што змянілася і пасля таго, як развалiўся Савецкі Саюз. Я лічу, што трэба паўсюдна ўвесці духоўнае выхаванне дзяцей у садках, школах, гімназіях, ліцэях, каледжах.

Беларуская праваслаўная царква мае поўнае права не прасіць, а патрабаваць ад улад: вярніце ў школы і другія навучальныя ўстановы выкладанне Закона Божага! Некаторыя служыцелі храмаў стварылі так званыя нядзельныя школы. Але гэта кропля ў моры, таму трэба вырашаць праблему на нацыянальным узроўні.

**Расціслаў ВАШКЕВІЧ, мінчанін.**

ПОГЛЯД

## Вы ж не прадажныя акцёры…

Заўважаю: у апошні час лідары палітычных партый направа і налева даюць інтэрв'ю. І за рэдкім выключэннем гавораць, што будуць удзельнічаць у парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах, якія набліжаюцца А вы, хлопцы, упэўнены, што гэта будуць сапраўдныя дэмакратычныя выбары, а не фальшывы спектакль? Спачатку дамагайцеся, каб і адна і другая палітычныя кампаніі прайшлі ў адпаведнасці з цывілізаванымі нормамі. А калі гэтага не будзе, то, скажыце, які сэнс удзельнічаць у спектаклях, пастаўленых па недэмакратычных сцэнарыях?

Вы ж не прадажныя акцёры…

**Васіль ЖУРАЎКОЎ, грамадзянін з дэмакратычнымі поглядамі.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Суверенный интернет?

Пока президенты России и Беларуси катаются на лыжах, Государственная дума Федерального собрания Российской Федерации одобрила в первом чтении закон о переходе страны на суверенный интернет. Или что-то в этом роде.

Я не знаю, как он будет действовать. Я вообще мало что понимаю в интернете, не слишком доверяю ему и предпочитаю не хранить в нем то, что, с моей точки зрения, должно существовать в одном экземпляре, – ни документы, ни фотографии. Не верю я и в то, что электронные книги заменят полностью книгу бумажную. А что касается убитых якобы социальными сетями и информационными сайтами газет, то я лично знаю пока только одно такое издание. И то, с моей точки зрения, это было не столько убийство, сколько самоубийство: газета могла еще долгое время существовать и радовать меня как читателя.

Но интернетом я пользуюсь активно. Правда, в последнее время, прилетая в Киев, испытываю некоторые затруднения. Например, я привык пользоваться почтовым ящиком, расположенным на российском сервере «Яндекс». После того как в 2010 году, во время избирательной кампании, его активно взламывали все, кому не лень, а потом еще и изымали мой домашний компьютер, я решил: гори оно всё гаром! Проще не писать никому ничего опасного, чем думать о безопасности своей почты не смыкая глаз дни и ночи, точно у мартеновских печей. А сейчас украинские власти приравняли «Яндекс» к орудию гибридной войны и отключили возможность пользоваться им на своей территории. Их право, конечно. Но я в Киеве попросту лишен возможности читать свою электронную почту. Создавать еще один ящик, на американском сервере, ставить пересылку туда своих писем с «Яндекса»? Можно, конечно. Но я уже привык, и затруднять себе жизнь, пересылая сотням своих корреспондентов новые координаты, как-то не хочется.

Судя по всему, после принятия Государственной думой России соответствующего закона, неудобства, возникающие у меня во время пребывания в Украине, покажутся мне детским лепетом в сравнении со штормом посреди Атлантического океана. Я не могу понять не только то, как я смогу пользоваться новостными сайтами (например, сайтом Радио Свобода) на территории России, где я время от времени бываю по научным делам. Я не могу понять, что после этого произойдет с нашим, белорусским, сегментом интернета. То есть мы в Беларуси сможем заходить на российские сайты (например, на сайт «Новой газеты»)? Ведь мы-то останемся в мировой паутине – надеюсь… Или же, отключаясь от всяких там американцев и европейцев, Россия поставит и нас перед соответствующим выбором: ребята, или следуете в нашем фарватере, или мы и от вас заодно избавляемся. И как мы тогда будем функционировать? Тем более что непредсказуемую предсказуемость белорусских властей в отношении интернета мы с вами хорошо знаем.

Интернет, конечно, не мексиканско-американская граница. Между Мексикой и Америкой стену, вероятно, воздвигнуть можно, что обеспечит американцам некоторое количество рабочих мест. В успешность проекта по переходу России из всемирной паутины в паутину собственную я верю несколько меньше. Но здесь дело такое, что и стоящие часы два раза в сутки показывают абсолютно точное время. Сомнения сомнениями, но вдруг в данном случае у них, в России, на этот раз что-то получится? Может быть, кто-нибудь из специалистов объяснит нам, чем это грозит для белорусского пользователя на практике. Зря, что ли, все эти IT льготами пользуются?

Кстати, что будет с этими льготами после того, как Россия – не дай бог, конечно, – попытается и нас втянуть в эту авантюру? Сохранится ли в этом случае любимое детище Валерия Цепкало (имею в виду корпорацию айтишников), или они все дружно, целым парком, снимутся с насиженного места и улетят в более теплые края?

В общем, много вопросов. Но рисковать не хочется. А то катаются наши президенты на лыжах в Сочи, катаются, и не известно, куда мы вместе с ними докатимся…

Нет, в данном случае я не про Союзное государство. Пока – всего лишь про интернет.

ВІЗІТ

## Мінск чакае еўракамісара па бюджэце і чалавечых рэсурсах

Як паведаміў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў **Анатоль Глаз**, на наступным тыдні ў Мінск прыляціць еўрапейскі камісар па бюджэце і чалавечых рэсурсах **Гюнтэр Этынгер**.



Ён сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Сяргеем Румасам, міністрам фінансаў Максімам Ермаловічам і намеснікам міністра замежных спраў Алегам Краўчанкам.

*«Плануецца абмеркаваць актуальныя пытанні развіцця палітычнага дыялогу і гандлёва-эканамічнага ўзаемадзеяння па лініі Беларусь–ЕС, а таксама ўзаемадзеянне ў фінансавай і мытнай сферах»,* – сказаў прэс-сакратар МЗС Беларусі Анатоль Глаз.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Фармкомпания отзывает лекарство от кашля Эреспал

*Французский производитель «Сервье» приостановил действие торговых разрешений на препараты, содержащие фенспирид.*

Информация об этом опубликована на официальном сайте компании «Сервье».

Уточняется, что причина изъятия с рынка препарата – результаты «новых доклинических исследований безопасности, предполагающих, что препарат может влиять на изменение сердечного ритма».

Медицинских работников просят больше не назначать этот препарат, а пациентов – прекратить лечение. Как сообщает научно-популярное издание «Чердак», пациентам, принимавшим Эреспал ранее, беспокоиться не стоит, так как изменения сердечного ритма возникают только во время курса приема этого средства.

Среди отечественных врачей мнения разделились: одни специалисты продолжают считать препарат эффективным, другие выступают против него.

ВОТ ЭТО ДА!

## Индийские полицейские начали защищать туристов от макак

*Стражи порядка, работающие на территории Тадж-Махала, начали отпугивать пристающих к туристам макак с помощью рогаток.*



Животные не только не боятся подходить к людям, но и могут укусить. В мае прошлого года от нападения обезьян пострадали два французских туриста. В ноябре обезьяна выхватила младенца у местной жительницы и бросила на крышу. Ребенок скончался от полученных травм.

Ежедневно мавзолей-мечеть в Агре посещает около 25 тысяч туристов. Рядом со знаменитым памятником обитают несколько тысяч обезьян, которые приходят к мусорным контейнерам в поисках пищи. Каждый месяц регистрируется один-два случая нападения на людей.

В конце января охранники начали использовать рогатки, чтобы отпугнуть обезьян. Однако после того, как о нововведении сообщили в СМИ, начальник охраны Тадж-Махала подвергся серьезной критике со стороны зоозащитников, которые обвинили полицейских в злоупотреблении властью и жестоком обращении с животными. Под давлением общественности стражи порядка были вынуждены отложить рогатки. «Обезьяний вопрос» в Тадж-Махале по-прежнему остается нерешенным.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# У Карэі Станіслава Шушкевіча ўзнагародзілі ордэнам, а яго жонцы падарылі швейцарскі гадзіннік

*Былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі па-ранейшаму жаданы госць на многіх міжнародных форумах.*




Днямі на сустрэчы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання не было Станіслава Шушкевіча. Многія задаваліся пытаннем: чаму? Усё аказалася проста – Станіслаў Станіслававіч быў у Сеуле, дзе правёў каля тыдня.

– У Паўднёвай Карэі праходзіў Міжнародны саміт «За мір ва ўсім свеце», – падзяліўся ён уражаннямі ад паездкі. – На форуме разглядаліся два пытанні. Першае: што неабходна, каб быў мір і спакой у свеце? І другое – аб'яднанне Карэі.

У Сеул з'ехаліся больш за 40 былых і дзеючых кіраўнікоў дзяржаў, і шэсць з іх (у тым ліку і я) былі ўзнагароджаны спецыяльным ордэнам *(на фота)* за ўнёсак у захаванне міру. Трэба сказаць, што ўзнагарода маштабная ў літаральным сэнсе – ордэн важыць каля 200 грамаў.

**– Арганізацыя мерапрыемства – на ўзроўні?**

– Саміт быў проста грандыёзны! Уявіце сабе, што ён праходзіў у палацы, зала якога змяшчае каля 30 тысяч чалавек, і яна была запоўнена цалкам не толькі гасцямі, але і карэйскай моладдзю. Форум праходзіў у 60 кіламетрах ад Сеула, і, калі аўтобусы рушылі з карэйскай сталіцы, то з іх атрымалася бясконцы ланцуг.




Увогуле, я заўсёды захапляюся тым, як карэйцы ўмеюць ладзіць такога кшталту мерапрыемствы і масавыя сустрэчы гасцей. Усё дысцыплінавана, распісана па хвілінах, ніякай мітусні. Вось так яны, дарэчы, і працуюць, а таму і ў эканоміцы адпаведныя вынікі.

Прыём быў фантастычны! Мяне з жонкай пасялілі ў шыкоўным пяцізоркавым гатэлі. Не паспяваеш нешта папрасіць, а цябе ўжо абслугоўваюць. Навокал самыя перадавыя навінкі тэхнікі, усё гэта найперш для людзей.

**– Да Карэі – шлях далёкі. Здароўе дазваляе ў 84 гады пераносіць такія складаныя пералёты?**

– Гэты пералёт добра пераношу, бо жонка спала, і мне ніхто не перашкаджаў. *(Смяецца.)* А ўвогуле, палёт ад Масквы да Сеула заняў каля 8 гадзін. І самае паганае, што было ў дарозе, дык тое, які «падарунак» мне зрабіла Саюзная дзяржава. Таму што з Мінска можна адправіць багаж у сталіцу Карэі, а адтуль – немагчыма.

І калі прылятаеш у Маскву, то спачатку багаж трэба афарміць на мытні ў Маскве: прайсці ўсе кантролі, блукаць па аэрапорце… Я ўвогуле стараюся з расійскай сталіцы нікуды не вылятаць, бо гэта толькі дадатковы галаўны боль, але зараз іншага выхаду не было. Дарэчы, у Сеуле я бываю рэгулярна раз-два на год.

**– Падчас форуму быў вольны час?**

– Трэба адзначыць, што графік працы быў досыць насычаны: пленарныя пасяджэнні, дыскусіі. Усё было загадзя спланавана, практычна кожнаму запрошанаму была дадзена магчымасць выступіць на саміце. Я таксама выступаў, затым былі пытанні. Галоўны тэзіс майго даклада быў такі: барацьба за мір і стабільнасць у свеце – гэта ў першую чаргу барацьба за дэмакратыю.

Таму працы было шмат, але, каб удзельнікі форуму крыху адышлі ад дзелавых спраў, нас звазілі ў балет на пастаноўку «Дон Кіхота» ў карэйскай інтэрпрэтацыі. Тут можна сказаць коратка: блікучы спектакль!

**– Калі з жонкай ездзілі, то, напэўна, і без шопінгу не абышлося?**

– Практычна нічога там не купілі, бо былі толькі ў краме пры гасцініцы. Хаця жонка набыла там шмат марской капусты ў прыгожай упакоўцы, прывезлі яе ў Мінск. І яна яе любіць, і мне падабаецца.

Але ў Сеуле нам падарылі мноства сувеніраў. Мне – кнігі, ордэн, як ужо казаў. Маёй жонцы, як першай лэдзі першага кіраўніка незалежнай Беларусі, шыкоўныя і вельмі дарагі швейцарскі гадзіннік *Cartier*.

**– У Карэі мяса сабакі – традыцыйная нацыянальная страва. Не пакаштавалі?**

– Не каштаваў і не было такога жадання, хаця ад карэйскай кухні я проста ў захапленні. Мне падабаюцца стравы з морапрадуктаў, і ў Карэі іх гатуюць неверагодна смачна.

**Алесь СІВЫ.**

СЛЫШАЛИ?

## Марсоход больше не работает

*Миссия прибывшего на Марс в 2004 году ровера Opportunity завершена, марсоход перестал отвечать на сигналы с Земли. Об этом объявило Американское аэрокосмическое агентство (NASA).*

Opportunity прибыл на Марс в 2004 году и изначально был рассчитан на 90 дней работы, однако его миссия продлилась 15 лет.

Связь с марсоходом прервалась 10 июня 2018 года после сильнейшей пылевой бури на Марсе, и после этого попытки вновь связаться с ним не дали результата.

К 2020 году NASA планирует доставить на поверхность Марса еще один аппарат для сбора информации, на основании которой ученые оценят вероятность существования жизни на Марсе.



СТОП-КАДР

# Тридцать футбольных полей могли бы поместиться в чаше «глаза небес»

*Так китайцы называют свой радиотелескоп FAST – самый большой в мире с полностью заполненной апертурой, то есть со сплошной поверхностью антенны.*

Диаметр телескопа – 500 метров. По этому показателю он уступает российскому телескопу РАТАН-600 в Карачаево-Черкесии, диаметр которого 576 метров, однако превосходит его по собирательной площади (РАТАН имеет кольцеобразную антенну, а FAST – неподвижную сферическую). Китайский телескоп смонтирован в провинции Гуйчжоу в карстовой котловине Даводан. В журнале «Вокруг света» сказано: чтобы собрать «глаз» из 4450 треугольных панелей-отражателей, китайским властям пришлось потратить более 185 миллионов долларов и переселить свыше девяти тысяч человек.



С МИРУ ПО НИТКЕ

## Италия отклонила рекордное количество заявок о предоставлении убежища

*Италия отклонила рекордные 24.800 заявлений о предоставлении убежища за последние четыре месяца.*

Гуманитарные группы говорят, что это является следствием жесткой миграционной политики популистского правительства, сообщает The Guardian.

Количество отказов возросло на 25% по сравнению с предыдущими четырьмя месяцами с июня по сентябрь 2018 года. Рост совпадает по времени с введением в действие жесткого декрета Сальвини об иммиграции.

Декрет приостанавливает процесс подачи ходатайства об убежище лицами, которые считаются «социально опасными», а также отменяет разрешение остаться в стране для некоторых из них, кому отказано в формальном статусе беженца, но которые не могут вернуться домой.

С октября более 7000 человек получили отказ в получении так называемой «гуманитарной защиты». В январе этого года было принято всего 150 заявлений по сравнению с 2091 заявлением в январе 2018 года.

## В ООН получили официальное извещение об изменении названия Македонии

*Генеральный секретарь ООН Антонио Гутерриш получил официальное извещение об изменении названия Бывшей югославской Республики Македония на Северную Македонию.*

Об этом сообщает AP.

Представитель ООН Стефан Дужаррик заявил, что Гутерриш «приветствует этот шаг, который урегулирует давний спор между Афинами и Скопье и демонстрирует, что даже, казалось бы, неразрешимые вопросы могут быть решены путем диалога и политической воли».

Дужаррик заявил, что Генеральный секретарь «призывает государства-члены, региональные организации и всех международных партнеров поддержать исторические шаги сторон».

Напомним, 12 февраля правительство в Скопье официально сообщило об изменении названия «Македония» на «Республика Северная Македония».

Народная Воля http://www.nv-online.info
15 ЛЮТАГА 2019 г.

АСОБА



# Віктар ШАЛКЕВІЧ: «Я ў тэатры ўжо найграўся»

*Беларускаму барду, акцёру, паэту, шоўмену Віктару Шалкевічу споўнілася 60 гадоў. Ягоная творчасць добра знаёма не толькі жыхарам сталіцы, з канцэртамі, імпрэзамі ён любіць выступаць і ў невялікіх гарадках і мястэчках.*

## Наперад і ніколі назад

**– Віктар, з якім настроем ацэньваеш мінулае, як наогул успрымаеш жыццё?**

– Ёсць некаторыя справы, якія ўдалося зрабіць, а ёсць тыя, якія яшчэ практычна перад табою, і іх хочацца завяршыць, бо яшчэ адчуваеш у сабе нармальныя сілы.

**– Дзяцінства згадваецца? Якім быў той час? Напэўна ж, хадзіў у піянерах і камсамольцах...**

– Згадваюцца не піянеры і камсамольцы, а тое, як, да прыкладу, пайшлі аднойчы з сябрамі некуды ўзімку, ды так, што я вярнуўся дахаты з поўнымі ботамі вады. Боты потым у хаце пераабуў, але памятаю, як тата на гарох паставіў, бо нельга было так проста ўцячы з хаты і ўсё.

Памятаю яшчэ, як у дзяцінстве хварэў, а ў школе было нейкае Свята буквара, я прадстаўляў літару «Б», павінен быў чытаць чатырохрадкоўе: «Был у бабушки баран, громко бил он в барабан...» А я захварэў і не здолеў пайсці на гэта свята...

Памятаецца, як з татам па ёлку ў лес хадзілі, потым упрыгожвалі яе, і тады гэта было нармальна, а зараз за такі паход у лес міліцыя штрафуе. Класна было, калі пасля Калядаў брат старэйшы да нас прыходзіў. Сядалі да стала, рэзалася сала – яно было настылае, мама капусты прыносіла, гуркі, на стол самагонку ставілі... Я, канешне, не піў, але бачыў, як гэта дарослым падабалася...

## «Нас вучылі, што кожная капейка зарабляецца працай»

**– Памятаеш людзей, якія цябе ў той час акружалі?**

– Шыкоўныя былі сябры, шыкоўныя былі людзі! Я заўсёды кажу, што тыя людзі, якія пажылі ў міжваенны час, нечага каштавалі. Яны былі людзьмі самадастатковымі і мелі пачуццё ўласнай годнасці. У нас у Поразаве ніхто ў камуністычную партыю не ўступаў – гэта было сорамна. З нашага мястэчка паходзілі людзі, якія пазней сталі дактарамі, настаўнікамі, інжынерамі і г.д. Файныя ў мяне былі бацькі, суседзі, местачкоўцы, якія тады і закладвалі ў нас зарад на ўсё жыццё.

**– Побач былі добрыя, цікавыя людзі, але ўсе жылі ў закрытай краіне, не мелі ніякіх перспектыў, за мяжу было забаронена выязджаць...**

– Гэта так, але, мне здаецца, мы тады проста жылі і ўсё роўна чакалі, што нешта зменіцца. У памяці нашых бацькоў было і іншае жыццё, пра якое яны распавядалі. І галоўнае, чаму яны нас вучылі, – што кожная капейка зарабляецца цяжкай працай. Гэта зараз я не ведаю, адкуль бяруцца тыя грошы ў людзей. А тады я бачыў, як нехта працаваў на зямлі, нехта займаўся ганчарствам, яшчэ нехта крэйду дабываў, свіней гадаваў і здаваў… Чалавек тады ў нашым мястэчку ніколі не сядзеў без справы, не тое што цяпер.




## Хацелася падабацца дзяўчатам

**– А калі пачала зараджацца твая цікаўнасць да творчасці?**

– Памятаю, што недзе ў 12 гадоў напісаў паэму і так схаваў яе, што дагэтуль не знайшоў. Я добра пісаў у школе сачыненні, мы выпускалі насценную газету, а яшчэ я вельмі шмат чытаў. У нас былі дзіцячая бібліятэка, школьная і раённая – я ва ўсе быў запісаны, хадзіў і браў там кнігі. Мне вельмі тады падабалася прыгодніцкая літаратура кшталту пра капітана Кука, пра Нязнайку і яго сяброў. Мне пашэнціла, што ў нас была вельмі цікавая першая настаўніца – Марыя Нікіфараўна Горбач. Здаралася, што нехта прыносіў на ўрок цікавую кнігу, і яна дазваляла, каб хтосьці адзін чытаў яе ўголас, а мы ўсім класам слухалі. Вось такая была эвалюцыя.

**– У цябе былі тады нейкія ідэалы, да каго хацелася быць падобным?**

– Хацелася падабацца дзяўчатам – гэта было самым галоўным. У нас у Поразаве была школа-інтэрнат, і там часта праводзіліся турніры па настольным тэнісе. Сваіх дзяўчат мы ўсіх ведалі, а тут прыязджалі дзяўчаты з Навагрудка, Ліды, іншых гарадоў, і шмат прыгожых. І вось, гледзячы на іх, унутры ўсё пачынала варушыцца. А асаблівых ідэалаў не было, ды і падобным ні на кога быць не хацеў.

## З першай песняй аб'ездзіў ці не палову раёна

**– А першыя песні твае пад уплывам чаго з'явіліся?**

– Тады ўсе хацелі іграць на гітары, але не было каму навучыць. Брат аднакласніка навучыў, а я напісаў песню, і мы потым аб'ездзілі з гэтай песняй з канцэртамі ці не палову раёна. Дарэчы, я ў той час вельмі добра спяваў, але потым у мяне паламаўся голас.

## «Я верны сын каталіцкай царквы»

**– Дарэчы, ты ўдзельнічаеш у дабрачынных канцэртах? Памятаецца, яшчэ Шаляпін некалі казаў, што бясплатна толькі птушачкі спяваюць.**

– Часам здараецца, што канцэрт просіць даць ксёндз і знаходзяцца людзі, якія мяне падвозяць у парафію. Я з задавальненнем еду, бо я верны сын каталіцкай царквы і не магу адмовіць ксяндзу. Што тычыцца іншых канцэртаў, то трэба разумець, што на дзяржаўныя святы і ў вялікія залы мяне ніхто не запрашае, даводзіцца самарэалізоўвацца ў больш сціплай аўдыторыі.

**– А перад кім ты ніколі не выступіў бы?**

– Пытанне, на якое я адказаць не магу. Аляксандр Вярцінскі некалі казаў: я артыст і асоба нейтральная. Але што значыць нейтральная? Проста кожны выканаўца мае сваіх гледачоў, і ў такім выпадку Іван Пятроў ніколі не выступіў бы перад ваеннымі будаўнікамі, а Шалкевіч – перад ваеннымі ламацелямі. Але ў прынцыпе я не ведаю, што адказаць на гэтае пытанне. Да мяне аднойчы пасля канцэрта падышлі двое мужчын і сказалі, што прыйшлі сюды, бо ім распавялі, што я антысеміт. Але, маўляў, паслухалі песні і вырашылі, што я не антысеміт.

## «А хочацца ж яшчэ і піва папіць...»

**– Ты шчаслівы ў сваёй прафесіі, знайшоў сябе, гэта тваё?**

– І зноў пытанне, на якое мне вельмі складана адказаць. Канешне, я адчуваю сатысфакцыю, калі на сцэне Купалаўскага тэатра ў спектаклі гучыць мая песня «Цнота» і зала выбухае задавальненнем. Але ўсё ж прафесія мая не самая лепшая. У прынцыпе, я ў тэатры ўжо найграўся. На жаль, сучасная акцёрская праца вельмі мала прыносіць грошай на жыццё. А хочацца ж яшчэ і піва папіць, і папярос купіць, і ў кіно схадзіць. Так складваецца жыццё ў нашай краіне, што чалавек мусіць скакаць. Таму і не дзіўна, калі акцёр у нашай краіне дзеля таго, каб падзарабіць, мусіць класці печы, а дырэктар школы – канапаціць сцены. Але гэта асаблівасць нашага жыцця. Проста стараешся рабіць усё добра і цікава.

## «Цікава глядзець на маладое зялёнае...»

**– А што засталося цяпер табе цікавым у жыцці?**

– Самае цікавае цяпер для мяне – гэта калі пасадзіш бульбу і глядзіш, як яна прабіваецца праз глебу, каб вырасці. Мне многія кажуць, што вось непрыбыткова бульбу садзіць. Я адказваю: а мне падабаецца! Мне падабаецца, калі нешта маладое зялёнае пачынае тырчаць з зямлі.

**– Як бы ты акрэсліў свае адносіны з уладамі?**

– Я ведаю, што яны ёсць, але я не кандыдат у прэзідэнты і таму не меў з імі асаблівых адносін. Я жыву іншым жыццём і пра гэта нават не задумваюся. Відаць, Бог мяне на іншае месца паставіў.

## «Хацеў бы быць цесляром...»

**– Мы ўжо казалі пра твае таленты, а якія яшчэ ты хацеў бы мець?**

– Я, на жаль, не ўмею дрэва стругаць. Я вельмі хацеў бы быць цесляром. Вельмі зайздросціў знаёмаму, які рабіў мне драўляны ложак, які шаляваў сцены, – гэта вельмі здорава. І ў мяне заўсёды была павага да людзей, якія нешта ўмеюць рабіць рукамі.

**– Калі б у цябе была магчымасць праспяваць з любым артыстам, які некалі жыў, – каго б ты выбраў?**

– Я хацеў бы выступіць з Маркам Грыхутам, на жаль, ён ужо нябожчык. Я яго страшэнна любіў, хаця мне, канешне, шмат хто з артыстаў падабаецца, і музыку я люблю самую розную.

## «У мяне ёсць рэальная мара»

**– А марыць ты любіш, што табе мроіцца?**

– У мяне ёсць рэальная мара, і я хачу яе здзейсніць. Вось прыйдзе вясна, я скончу ўпарадкоўваць канцэртную пляцоўку ў двары свайго лецішча і арганізую фестываль, прысвечаны чарговым угодкам нашага караля Стэфана Баторыя. Вось гэта мая мара! Гэта чалавек, памяць якога варта ўшаноўваць.

**Гутарыў Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЛИЧНОЕ ДЕЛО

# Цирк – концлагерь для животных?

К своей цели человек идет всю жизнь, и дорога эта может быть с такими зигзагами!.. Художница Наталья Стельмашонок, человек с высшим академическим образованием (сначала Академия художеств в Санкт-Петербурге, потом в Минске), наконец, дочь народного художника Владимира Стельмашонка, оставила преподавательскую работу в Университете культуры и ушла работать в цирк. Рабочей. Можно добавить даже – простой рабочей. Теперь она кормит животных, убирает их клетки и говорит, что наконец занимается любимым делом, счастлива и потому вопрос о престижности профессии считает неуместным. Наталью гораздо больше волнует положение животных в клетках цирка и их жесткая (если не сказать – жестокая) муштра. Она уверена, что эта древняя забава – смотреть на дрессированных зверей на арене – должна наконец исчезнуть из развлечений культурного человека. Звери, равноправные жители планеты, не заслужили таких унижений.

**– Вы, Наталья, человек без предрассудков: захотели – и круто поменяли свою жизнь. Как правильно называется ваша должность в цирке?**

– Рабочий по уходу за животными. Вы смущены? Я ни грамма. У меня всю жизнь чередуются искусство и животные. Надо было сразу на ветеринарный идти, конечно. Но отпугнула химия, которую там сдают на вступительных экзаменах.

**– А может быть, вы просто боялись огорчить папу, известного художника?**

– Вот уж нет! После школы пошла работать с лошадьми в Ратомке. А после учебы в Академии искусств – в зоопарк. Хотела непосредственно к животным, но директор посмотрел на диплом и обрадовался: «Нам как раз нужен художник!» Пришлось оформлять праздники, ползать на четвереньках по всем дорожкам и рисовать



Наталья Стельмашонок.

следы тигра. А в цирке я работаю только третий год.

**– Неужели в цирке платят больше, чем в университете?**

– Конечно. В два раза больше! Как старший преподаватель в университете я получала 270 рублей.

**– Расскажите, как животные живут за кулисами цирка.**

– Их дрессируют, порой жестко. Но даже если артист с ними по-хорошему, то это все равно плохо, потому что животное всю жизнь проводит в клетке. Часто в очень маленькой клетке. Животных в цирке быть не должно, вот мое мнение.

**– Но если не будет животных в цирке, вы потеряете работу!**

– Первая уйду с радостью. Сейчас обслуживаю два номера: в одном – обезьяны, собаки, ослы; в другом – пони и собаки разных пород. Конечно, кормят их очень хорошо, иначе они не смогут выступать на арене. Не далее как вчера получала на них кучу продуктов. Обезьяны едят ананасы, манго. Готовим им котлетки, кашки, сосиски, сырники. Можно сказать, питаются, как люди, или даже лучше.

**– Обезьяны едят мясо?!**

– И мясо, и рыбу. Утром легкий завтрак (немного фруктов, мюсли) или просто попить. А на обед и ужин – порция, как взрослому человеку. И уж точно больше, чем ем я, и больше, чем жена дрессировщика.

**– Тогда чем же им плохо в цирке? Они ведь воли не знали, значит, и не тоскуют по ней.**

– Одна обезьяна знала, ее контрабандой вывезли с родины, она каким-то окружным путем пришла в наш цирк. Другой, самец, тот никогда на воле не жил, долго находился в зоомагазине, сидел в клетке с попугаями. И теперь у него нарушена психика, и он не может выступать – такой вот обезьян. Любит безобразничать, что-нибудь сломать. Милое животное, совершенно бесполезное. Лучше бы его в зоопарк отдали, ему было бы веселее.

**– Сложные отношения у человека с животными… Охота на лис, коррида – древние традиции. Как и цирк диких животных. Почему надо от него отказаться?**

– Цирк о животных должен забыть, это однозначно. Хотя бы пока о диких животных. Конечно, есть исключения, есть артисты, которые ни разу не ударили своих подопечных. Но все равно выводить дрессированное животное на арену – это удовлетворять потребность публики в низкой потехе. Закон, запрещающий использование животных в цирке, приняли в Украине, а также в Италии, Австрии, Греции, Швеции, Хорватии, Португалии – больше двадцати европейских стран теперь не показывают зверей в цирке. С 2020 года такой закон вступит в силу в Великобритании. В Китае также нет дрессированных животных. А в России – есть: дремучий в этом смысле край. И мы такие же. Никак не дорастем.

**– А что, в неволе животные умирают раньше?**

– Нет, у нас обезьяна породы лапундер умерла в 29 лет, а в природе они живут лет пятнадцать, не больше. Старый, полупарализованный, сидел и сидел. Его пытались лечить… Зачем, когда он обречен?

**– Сложный вопрос.**

– А вот одна наша обезьяна пытается выбраться всегда и любыми способами. Развинчивает гайки, пробует сломать клетку. Хотя сама очень добрая, умненькая, Кузей зовут.

**– Знаете, в человеческом обществе, как считают социологи, тоже каждый десятый – революционер. Вот и ваша обезьянка, похоже, из такого разряда. А вы с артистами разговаривали на эту щепетильную тему?**

– Конечно, нет, это бесполезно. Абсолютно. Это люди, как правило, из династий, их отношение к животным на арене сфомировалось с детства. Один дрессировщик прямо сказал: «Я больше ничего не умею».

**– Человека к обучению тоже принуждают: ставят оценки, наказывают порой – не дают сладкого, не пускают гулять.**

– Человек заслужил, он по своей воле идет учиться, осознанно. А животных в цирк забирают насильно и дрессируют ради забавы. Зрители смеются, радуются и почему-то не хотят знать, как достигается эта «красота». Хотя, по-моему, это же очевидно. Я не говорю, что все артисты бьют своих подопечных. Но силу так или иначе применяют все. Например, животное не кормят, пока не выполнит команду. А кто дал право? Наши пони, например, катают детей три раза в день: до представления, в антракте и после. И выступают еще на арене. У них болят копыта, потому что их раньше времени седлают. Вообще, цирковые лошади все инвалиды: они скачут только в одну сторону, у них больные суставы из-за больших нагрузок.

**– А у вас есть единомышленники в этом вопросе? Не в цирке, конечно, а в городе?**

– Конечно! Однажды активисты экологического движения даже устроили в Минске манифестацию с плакатами: «Цирк – тюрьма для животных». Потом, правда, были оштрафованы за несанкционированное шествие.

**– Надо писать в СМИ, разъяснять, бить в колокола. Надо воспитывать граждан.**

– Я всем говорю: «Не ходите в цирк, друзья, когда приезжают звери. И детей учите, что нельзя дрессировать животных». И тогда вам будет не смешно смотреть на кенгуру в балетной пачке, у которой одна ножка была сломана и потому она сейчас на арене, как корова на льду, расползается. Или, помню, катаем на пони детей, круг за кругом, животное уже еле ходит, но никому не жалко. Вдруг одна девочка восклицает: «Что вы мучаете пони!» Я на радостях: «Правильно говоришь!» Но мама дает девочке деньги – и она тут же садится на пони. И любовь к животному заканчивается.

**– На вас животные никогда не нападали? От стресса, усталости.**

– Как же, пони кусал, бросался. А у мальчика – 200 килограммов весу. Обезьянки кусали, да так, что кровища текла, – это мы так знакомились друг с другом. А теперь бросается только одна, та, которая не работает. Ей нужно внимание, его нет, она злится. Кстати, звери просыпаются поздно, продирают глазки к часам десяти, они очень недовольны, когда приходишь и рано включаешь свет. И после обеда почти все любят вздремнуть.

**– От постоянного контакта с животными ваша одежда, наверное, пропиталась особым запахом. Ваших домашних это не смущает?**

– Смущает. А меня нет. Зато не надо покупать французский парфюм, тратиться. Духи совсем мне без надобности, бесполезны.

**– Вы бывали свидетельницей ситуаций, когда животные на арене выходили из-под контроля?**

– И смех и грех: однажды носорог наделал перед зрителями такую большую кучу, извините за подробности... А обезьянка наша – правда, не здесь, а на гастролях – убежала с арены под купол цирка, причем прямо по головам зрителей.

**– Ух ты! Зрители могли бы в суд подать.**

– Легко. И правильно сделали бы.

**– Вы хотели бы остаться в цирке навсегда?**

– Кто знает… Я вообще живу, прислушиваясь к себе. Заработок меня не пугает.

**Елена МОЛОЧКО.**



Фото носит иллюстративный характер.

